# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" |
|---|---|---|

№ 20 (555) — Нядзеля, 14 траўня 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15

# Захад перад узмоцненай камуністычнай загрозай

Палітычная сытуацыя ў сьвеце апошнім часам зьяўляецца што раз болей напружанай і многія важныя пункты ў вольным сьвеце што раз мацней падмінаваныя камуністычнай пэнэтрацыяй.

Праўда, у вагульным баляньсе здабыткаў і стратаў вольны сьвет апошнім часам мог запісаць на сваім коньце й бяспрэчныя сукцэсы. Адным зь іх зьяўляецца пасьпяховы вынік амэрыканскага спаборніцтва ў вапанаваньні касьмічнага прастору. Як ведама, удалы лёт маёра Гагарына вакол зямное кулі, выкарыстаны ў нябывалых разьмерах савецкай прапагандай, як довад вышэйшасьці камуністычнай сыстэмы, выклікаў быў не малую дэпрэсію ў народаў вольнага сьвету й тым самым аслабіў веру ў ягоныя собскія магчымасьці.

Тымчасам хутка пасьля савецкага касьмічнага лёту й Амэрыканцы выпусьцілі 5 траўня сваю першую ракету ў касмос з чалавекам. Быў ім ахвіцэр марынаркі Элен Шэфард, які ў ракеце «Свабода» дасягнуў 185 кілямэтраў вышыні й пасьля 14 мінут лёту шчасьліва апусьціўся над Атлянтычным акіянам. Праўда, ён не абляцеў кругом зямлі, а толькі падняўся ў вадным ейным пункце й дасягнуў толькі палавіну вышыні, на якую падняўся Гагарын, але з тэарэтычнага гледзішча амэрыканскае дасягненьне ні ў чым ня ўступае савецкаму. Апрача гэтага, амэрыканскія касьмічныя выпрабаваньні адбываюцца зусім адкрыта, і мы ведаем, што Шэфард быў узапраўды першым Амэрыканцам, які падняўся у касьмічны прастор. Затое савецкія выпрабаваньні зьяўляюцца тайнымі й паведамляецца адно аб посьпехах, а старанна замаўчваюцца няўдачы. Таму многія на Захадзе робяць правільныя прыпушчэньні, што перад Гагарынам былі ў Саветах і нешчасьлівыя спробы касьмічных лётаў, якія пацягнулі за сабой людзкія ахвяры. Дык калі ўзяць на ўвагу гэтую акалічнасьць, амэрыканскі касьмічны лёт можа уважацца большай удачай, чымся савецкі. У кажным выпадку гэты амэрыканскі лёт паказаў, што Амэрыка ў ніякім выпадку не стаіць ззаду за Саветамі ў галіне апанаваньня касьмічнага прастору.

Другім важным сукцэсам вольнага сьвету было апошнім часам пасьпяховае зьліквідаваньне вайсковага бунту ў Францыі, паднятага чатырма адстаўнымі генэраламі. Не падлягае сумлеву, што францускія генэралы дзеілі із хвальшывага разуменьня імі патрыятычных матываў, аднак іхны бунт супраць Дэ Голя быў адно толькі вадой на млын камуністычны. І калі-б ён удаўся, дык пытаньне Альжыру ўвайшло-б у фазу нябывалага яшчэ перад гэтым крызісу, а ўнутры Францыі дайшло-б да братабойчай вайны. Тымчасам грозны ў сваім задуме бунт быў поўнасьцяй зьліквідаваны ўжо на чацьверты дзень бязь ніводнага выстралу. У гэтым была заслуга ня толькі наважанай і разумнай палітыкі самога Дэ Голя ды праявілася сіла ягонага асабістага аўтарытэту, але й заслуга ўсяго францускага народу, які ў мамэнт нацыянальнае трагэдыі патрапіў паказаць сваю палітычную дасьпеласьць. Такім чынам з гэтага выпрабаваньня Францыя выйшла яшчэ сільнейшай і ейная ўдзельная вага ў вольным сьвеце значна павялічылася.

Апрача гэтых сьветлых мамэнтаў на палітычным гарызоньце сьвету згушчаюцца й цёмныя хмары. У цэлым радзе важных стратэгічных пунктаў сьвету камуністычная інфільтрацыя апошнім часам здабыла цьвёрдыя пазыцыі й паставіла Захад перад новымі цяжкімі заданьнямі.

У першую чаргу загрозьлівая сытуацыя вытварылася ў Ляосе. Пакуль вяліся доўгія намаганьні дасягненьня перамір'я й распачацьця перагавораў, камуністычныя паўстанцы Патэт Ляо, увесь час успамаганыя Савецкім Саюзам, ня трацілі часу й апаноўвалі што раз новыя тэрыторыі. Калі-ж цяпер пачаліся мірныя перагаворы й пэрыяд дажджоў змусіў спыніць ваенныя дзеяньні, дык камуністыя аказаліся пры значных тэрытарыяльных здабытках. Захад, у дадзеным выпадку Амэрыка лягічна не павінна была-б згадзіцца на сталы мір на аснове сяньняшняга статусу кво, бо гэта абазначала-б падзел Ляосу на дзьве часьці: камуністычную й некамуністычную. Таму трэба думаць, што цяперашнія перамовы скончацца нічым і што ўзноў распачнецца змаганьне, як толькі праміне пэрыяд дажджоў. Усё гэта ставіць Амэрыку перад неабходнасьцяй станоўкай дэцызіі з тым, каб у недалёкай будучыні наважыцца на збройную інтэрвэнцыю й ўратаваць гэтую краіну для вольнага сьвету.

Другім запальным пунктам асталася на далей і Куба. Упоены хуткай перамогай над паўстанцамі кубанскі дыктатар Фідэль Кастро ў сваёй першамайскай прамове праклямаваў Кубу на ўзор савецкі сацыялістычнай, г. зн. камуністычнай дзяржавай, што зьяўляецца адкрытай правакацыяй Задзіночаных Штатаў. Апрача гэтага, прыходзяць весткі, што на кубанскім востраве Кайо Лярго, аддаленым 100 кілямэтраў ад самой Кубы, Саветы будуюць базу для ракетаў і падводных лодак.

У той дзень, калі інвазія кубанскіх рэвалюцыянэраў была здушаная, прэзыдэнт Кэнэды быў заявіў, што гэтым рэвалюцыя на Кубе ня скончылася, але ўступіла ў новую фазу й што Амэрыка ні за якую цану не дапусьціць, каб Куба сталася камуністычнай. Дык ёсьць усе падставы спадзявацца, што Амэрыка ў імя собскай бясьпечнасьці будзе змушаная хутка зрабіць парадак на Кубе. Трэба лічыцца з тым, што амэрыканская збройная інтэрвэнцыя на Кубе зьяўляецца вельмі праўдападобнай ужо у блізкім часе.

Цёмныя хмары пачалі згушчацца й над Блізкім Усходам, дзе ў даволі загрозьлівым палажэньні апынулася Пэрсія. Ейная небясьпека галоўна ў тым, што яна мае доўгую беспасярэднюю граніцу з Савецкім Саюзам і творыць натуральную бар'еру паміж апошнім і пракамуністычным Іракам генэрала Касіма. Хрушчоў у сваей нядаўняй гутарцы з амэрыканскім журналістым Вальтэрам Ліпманам заявіў, што ён «прадбачыць рэвалюцыю ў Пэрсіі». З другога боку пэрсідзкі шах у знак незадаваленьня зь недастатковай эканамічнай і вайсковай амэрыканскай помачы пачаў выказваць думку аб патрэбе нэўтральнасьці Пэрсіі. Але такая нэўтральнасьць у беспасярэднім суседзтве з Савецкім Саюзам і Іракам абазначала-б пераданьне Пэрсіі пад камуністычныя ўплывы. Такім чынам і Пэрсія зьяўляецца сяньня пунктам, на якім павінна быць засярэджаная ўвага Захаду.

Да ўсяго гэтага даходзіць і справа Бэрліна, дзе апошнім часам узноў закtуалізавалася савецкая небясьпека. Савецкі Саюз аднавіў свае пагрозы супраць заходняга Бэрліна й панавіў свой праект падпісаньня сэпаратнага мірнага дагавору з Усходняй Нямеччынай. Праўда, гэтыя савецкія пагрозы спаткаліся адразу із станоўчай рэакцыяй з боку Захаду. Амэрыканскі міністар замежных справаў Раск на канфэрэнцыі НАТО ў Осьлё паўтарыў у сувязі з гэтым свае гарантыі для Заходняга Бэрліна й асьветчыў, што Амэрыка для абароны Заходняй Эўропы гатовая даць распараджэньне збройных сілаў НАТО свае падводныя лодкі, узброеныя ракетамі «Палярысамі».

Усе гэтыя й ім падобныя новыя камуністычныя загрозы вымагаюць ад заходняга сьвету асаблівай задзіночанасьці й наважанасьці ў змаганьні з камуністычнай небясьпекай. Трэба верыць, што Амэрыка пад кіраўніцтвам новага прэзыдэнта свае забавязаньні перад вольным сьветам патрапіць выканаць поўнасьцяй.

**Язэп *Караневускі***

# „Уставай пракляцьцем катаваны! Паўстань, хто з голаду век пух!"

У 1887-м годзе першы раз быў апублікаваны г. зв. «Інтэрнацыянал» — песьня на словы францускага паэта-камунара Пот'е.

Вялікая Савецкая Энцыклапэдыя так характэрызуе гэты твор:

«Ніводная песьня, ніводзін гімн у гісторыі чалавецтва ня меў такога пашырэньня сярод народных масаў усяго сьвету, як «Інтэрнацыянал».

З гэтым нельга не згадзіцца. Дынамічны «Інтэрнацыянал» стаўся гімнам працоўных усяго сьвету, якія ў тыя часы змагаліся з прыгнётам і эксплаятацыяй. Гэтая песьня натхняла й працоўных былой царскай расейскай імпэрыі на змаганьне за свабоду. Але нідзе так цынічна не апаганілі гэтай натхнёнай песьні, як у г. зв. «краіне пераможнага пралетар'яту» — СССР.

Доўгі час «Інтэрнацыянал» быў дзяржаўным гімнам СССР. Але самі маскоўскія дыктатары адчувалі, што палымяныя заклікі да свабоды ў гэтай песьні нясумяшчальныя зь няволяй і тыраніяй, якія лютавалі ў Савецкім Саюзе. У 1944-м годзе «Інтэрнацыянал» здэградавалі зь дзяржаўнага гімну да «гімну партыі», а яго замянілі вялікадзяржаўнай шавіністычнай песьняй Мазалькова. Гэтая песьня больш адпавядае і маскоўскім дыктатарам і савецкай рачаіснасьці. У ёй ёсьць усе атрыбуты й сымбалі гэтай рачаіснасьці: вялікадзяржаўнасьць, кулак дыктатуры — армія, Ленін, Сталін. Праўда, цяпер, калі маскоўскія кіраўнікі з тактычных меркаваньняў пачалі адсталінізоўвацца, абагаўляньне Сталіна ў дзяржаўным гімне хіба муляе вушы, але, з другога боку, ня выпадае мяняць дзяржаўныя гімны, як капялюшы...

«Інтэрнацыянал» здэградавалі, зрабіўшы яго партыйным гімнам. Гэта ня толькі цынічны зьдзек, але й хітрая махінацыя. Бунтарная песьня, якая кліча да свабоды, зьяўляецца гімнам клікі панявольнікаў і прыгнятальнікаў! Ці-ж гэта ня цынізм? Але адначасна, паводля задумы маскоўскіх дыктатараў, гэтая песьня і далей мае натхняць камуністых іншых краінаў на змаганьне быццам-бы з капіталізмам, а ў сапраўднасьці — за панаваньне савецкіх дыктатараў над усім сьветам.

Задумана хітра. Навет пякельна хітра. Толькі маскоўскія валадары забыліся аб тым, што «Інтэрнацыянал» паўстаў каля 80-ці гадоў таму, а за гэты час адбыліся радыкальныя зьмены. 1-га мая ў шмат якіх гарадох вольнага сьвету адбываюцца маніфэстацыі й паходы працоўных, якія пяюць «Інтэрнацыянал». Але гэта зьяўляецца больш маніфэстацыяй дасягненьняў працоўных, чымся іхных дамаганьняў. У вольным сьвеце «Інтэрнацыянал» стаўся шаноўным рэквізытам, сьцягам, пад якім працоўныя дасягнулі калясальных перамогаў.

А што-ж дзеіцца ў СССР — краіне г. зв. «пераможнага сацыялізму» і «дыктатуры пралетарыяту»?

«Хто быў нічым — той будзе ўсім!»...

Гэтыя словы ў 1917-м годзе бальшавікі зрабілі сваім авангардным лёзунгам. Гэтыя словы крычалі зь нязьлічоных палотнішчаў сьцягоў пляката́ў, транспарантаў. Яны заклікалі, абяцалі, парывалі...

Прыгадаем і іншыя бальшавіцкія лёзунгі тых часоў, як: «Свабода ўсім!», «Зямля сялянам!», «Хвабрыкі работнікам!».

Ніводзін з гэтых лёзунгаў ня зьдзейсьніўся: работнікі не атрымалі хвабрыкаў, ад сялян адабралі зямлю, заганяючы іх у калгасны прыгон — усе сталіся ахвярамі жорсткай дзяржаўнай эксплятацыі. Той, што быў нічым, ня стаўся ўсім. «Усім» сталася толькі партыйная арыстакратыя. Дзесяткі народаў страцілі сваю нацыянальную свабоду, а між імі — і наш, беларускі народ. Савецкая імпэрыя сталася турмой народаў. Прыгожыя лёзунгі і заклікі ашукалі...

Таму, калі сяньня ў вольным сьвеце заклікі «Інтэрнацыяналу» з кажным годам штораз больш трацяць актуальнасьць, у Савецкім Саюзе яны далей актуальныя. «Інтэрнацыянал» далей кліча на змаганьне, але цяпер ужо супраць тых, хто яго цынічна зрабіў сваім гімнам — супраць партыйнай дыктатуры, якая панявольвае людзей і народы.

Варта гэта прыгадаць і над гэтым задумацца ў дзень сьвята салідарнасьці працоўных. «Уставай, пракляцьцем катаваны!..»

**пс.**

# Каляніяльная эксплятацыя нерасейскіх народаў СССР

У папярэднім нумары «Б-ны» ў артыкуле «Маскоўская каляніяльная эксплятацыя» мы спыніліся над аднэй праявай бальшавіцкай каляніяльнай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі — над пытаньнем адбудовы жыльлёвай плошчы Беларусі за пасьляваенны пэрыяд. Мы зьвярнулі ўвагу на факт, што, ня гледзячы на вялізарныя разбурэньні падчас Другой сусьветнай вайны, за пасьляваенны час, як паказваюць савецкія статыстычныя дадзеныя, на нашай Бацькаўшчыне пабудована на душу насельніцтва амаль у два разы менш, чымся ў мала разбуранай вайной Расейскай Фэдэрацыі.

Гэтым разам спынімся над бальшавіцкай палітыкай капіталаўкладаў у народную гаспадарку паасобных саюзных рэспублікаў СССР, у прыватнасьці — БССР, бо гэтая палітыка зьяўляецца галоўным рычагом, пры дапамозе якога бальшавіцкая Масква ажыцьцяўляе плянавую эканамічную эксплятацыю нерасейскіх народаў і тэрыторыяў Савецкага Саюзу на карысьць мэтраполіі савецкай імпэрыі — Расеі.

Прыведзеныя ніжэй лічбовыя дадзеныя ўзятыя з савецкага статыстычнага зборніка «Народное хозяйство СССР в 1959 году» або атрыманыя ў выніку адпаведных вылічэньняў дадзеных прыгаданага зборніка.

Бальшавіцкая прапаганда цьвердзіць, што ў Савецкім Саюзе зьдзейсьнены ідэял сацыяльнай справядлівасьці і раўнапраўнасьці ўсіх народаў і паасобных грамадзян. Паглядзім, колькі ў гэтым праўды, закрануўшы гэтым разам матарыяльны бок пытаньня.

Як ведама, у сыстэме савецкага сцэнтралізаванага да максімуму дзяржаўнага капіталізму, разьвіцьцё «народнай» гаспадаркі і жыцьцёвы ўзровень насельніцтва паасобных рэспублік залежаць ад таго, як савецкі манапаліст-дзяржава разьмяшчае награмаджаныя ім народныя фінансавыя сяродкі. Прыгаданы савецкі статыстычны зборнік зьмяшчае адносна гэтага вельмі цікавыя дадзеныя. Вось некаторыя з іх:

На працягу 13-ці пасьляваенных год (1946—1958) на душу насельніцтва Беларуская ССР атрымала 51,5 працэнта капіталаўкладаў тэй сумы, якая была інвэставаная на душу насельніцтва па цэлым СССР, і толькі 44,3 працэнта таго, што атрымала на душу насельніцтва РСФСР. З усіх 15 саюзных рэспублік паводля колькасьці капіталаўкладаў на душу насельніцтва БССР стаіць на чацьвертым месцы ад канца, перад Малдавіяй (31,2 працэнта ў параўнаньні з РСФСР), Узбекістанам (41,6 працэнта) і Літоўскай ССР (43,3 працэнта). Найбольш капіталаўкладаў на асобу атрымлівае РСФСР; у параўнаньні з БССР яна атрымлівае, як гэта відаць з пададзеных лічбаў, на 53,7 працэнта, гэта значыць у два разы з гакам больш.

Як бачым, савецкія статыстычныя дадзеныя малююць нам вобраз, які перавышае найбольш змрачныя вынікі вылічэньняў і здагадкі дасьледнікаў гэтага пытаньня на Захадзе.

Такая палітыка разьмяшчэньня капіталаўкладаў дае і адпаведныя вынікі ў народнай гаспадарцы паасобных рэспублік. Аб гэтым мы пераконваемся, параўнаўшы, напрыклад, суму капіталаўкладаў на асобу ў РСФСР і БССР з аб'емам жыльлёвай плошчы на чалавека, адрамантаванай і пабудаванай за той самы пэрыяд часу ў гэтых дзьвюх рэспубліках. У БССР два разы меншыя капіталаўклады супадаюць з два разы меншымі памерамі жыльлёвага будаўніцтва, а ў РСФСР наадварот. Пры гэтым мы павінны заўсёды мець на ўвазе вялізарныя разбурэньні ў БССР з часоў Другой сусьветнай вайны, якія трэба было зьліквідаваць, каб даць насельніцтву Беларускай ССР хоць-бы даваенныя жыльлёвыя магчымасьці!

Вышэй пададзеныя цыфры наглядна ілюструюць бальшавіцкую палітыку эканамічнай дыскрымінацыі БССР і ўпрывільяванае эканамічнае палажэньне РСФСР, і выкрываюць хвальш бальшавіцкай прапаганды аб гэтак званай дапамозе партыі, ураду і «старэйшага расейскага брата» ў вадбудове Беларусі. Аднак гэта яшчэ ня ўсё. Савецкія да-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Сёе-тое

У Савецкім Саюзе ад даўжэйшага часу прадаўжаецца ператасоўка цівуноў. На месца выкіданых партыйных паразітаў, пачынаючы ад цэнтральных і рэспубліканскіх аж да малых дармаедаў, Хрушчоў запіхае дзіркі сваймі «рабятамі», векам малодшымі і яму адданымі.

Але дарма. Рыба, кажуць, гніе з галавы. На месца адных махляроў прыйдуць другія. Працоўнаму народу не палягчэе ад таго, што дармаеды на сьпіне пераменяцца.

Нядаўна масквічы напярэдадні і ў часе першамайскіх дэманстрацыяў добра адчулі посьпехі хрушчоўскай кукурузна-цалінпай палітыкі. Каля мясных і малочных крамаў чэргі на кілямэтры даўжынёй стаялі. Бальшавіцкія газэты наракаюць, што па калгасах масава маладых цялят рэжуць.

А чым-жа вы думалі людзі жывіцца будуць? Мікітавымі абяцанкамі і гагарынскімі посьпехамі?

*

Пасьля няўдалай інвазіі Кубы вызвольнымі кубанскімі сіламі разумнікаў у вольным сьвеце нарасло хоць адбаўляй. «Экспэрты» аж захліпаліся, радзячы Амэрыканцам, як ня трэба было і як цяпер трэба рабіць. І ня трэба мець вялікага носу, каб адчуць у гэных парадах маскоўскі пах.

Калі-ж прэзыдэнт Кэнэды ясна заявіў, што Задзіночаныя Штаты не дапусьцяць у заходнюю гэмісфэру камунізму ні пад якім відам, то «экспэрты» аж жахнуліся. Так і чуеш: — Хаця-ж, ты Джэк, асьцеражней, ня так ясна. Ды й што ты? Здурэў, кулаком махаючы?

Сочачы гэтыя дрыжыкі «экспэртаў», прыгадваецца ангельская прыказка: «калі зараве леў, то шакалы разьбягаюцца».

Добра, што шырокія масы амэрыканскага народу галавы ня трацяць і поўнасьцю свайго прэзыдэнта падтрымоўваюць.

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

# Бунт савецкай моладзі

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

праблематыкі. Аднак, дзейнасьць гэтых Інстытуту грамадзкай думкі й Дыскусыйнага клюбу ськіваная толькі да савецкае моладзі, а накіраванасьць і характар гэтае задумы раскрываюць неадкладную патрэбу й новы спосаб узьдзеяньня на савецкую моладзь. Адным словам, тут акрэсьліліся й трывога за савецкую моладзь, праўдзівей за ейны «ідэялягічны» бунт, і спробы ўзьдзеяньня на яе новымі мэтадамі «пераўзгадаваньня».

Ад даўжэйшага часу савецкая прэса забіла трывогу, што савецкай моладзі свомыя пашырэньне сваеасаблівых пагглядаў на жыцьцё і на савецкую рэчаіснасьць, сцэптыцызм і разчараваньне. З гэтага ўзгляду ўспомнены Інстытут грамадзкай думкі яшчэ ў 1960 годзе правёў сярод савецкай моладзі два апытальнікі падобнага характару. Праўда, названыя апытальнікі былі сьведама схвабрыкаваныя, каб паказаць «савецкі ідэялізм» гэтае моладзі. Трэйці апытальнік пад загалоўкам «Што вы думаеце пра сваё пакаленьне?» быў праведзены ў студзені бягучага году, а таксама й чацьвёрты дабавачны ў сакавіку. Пра тую-ж праблему савецкай моладзі апошні апытальнік быў праведзены сярод савецкай інтэлігенцыі. На гэты раз партыі ўсётакі не ўдалося так гладка казырнуць «ідэйнай стойкасьцяй савецкай моладзі. Наколькі можна зрабіць высноў зь некаторых працэнзураваных ведамак пра гэтыя апытальнікі й дадзеныя адказы на іх, сяньня сярод савецкай моладзі пануе апатыя, імкненьне да лёгкай нажывы, п'янства, адсутнасьць камуністычнага «гарэньня», наагул бязыдэйнасьць, з аднаго боку, і імкненьне да асэнсаваньня й выпрацоўкі собскіх пaглядаў на жыцьцё, крытычны падыход да партыйнай ідэялёгіі й мерапрыемстваў, зацікаўленьне Захадам і заходняй культурай, адмаўленьне «выключнай пакліканасьці» марксізму-ленінізму, з другога боку.

З гэтага ўзгляду даволі цікавым зьяўляецца прабег успомненай ленінградзкай дыскусыі на тэму «Псыхалёгія сучаснага маладога чалавека». Арганізаваная рэдакцыяй «Камсамольскай праўды» й Ленінградзкім педагагічным інстытутам імя Герцэна, у ёй прынялі ўдзел як студэнты ленінградзкіх вышэйшых навучальных установаў, так пэдагогі й работніцкая моладзь. Ведама, накіроўвалі ці стрымоўвалі яе адказныя партыйцы. Поўныя тэксты выступленьняў ды й шматлікія выступленьні ня былі апублікаваныя. Аднак і апублікаваныя працэнзураваныя вытрымкі некаторых з гэтых выступленьняў, а таксама дадзеныя да іх камэнтары даволі кідаюць сьвятла на жывы й у той-жа час сьмелы прабег дыскусыі.

Як зазначаецца ў справаздачы, найбольшае ўражаньне, ведама, і палеміку з боку прававерных партыйцаў, выклікала выступленьне студэнта Інстытуту імя Рэпіна Ул. Салаўёва. «Яго слухалі вельмі ўважліва», — дадае камэнтатар, дакінуўшы сваё, што кліч Салаўёва «паддаваць усё сумлеву быў у хуткасьці ськіваваны супраць самога аратара». Галоўная думка выказваньняў Ул. Салаўёва заключаецца ў тым, што было-б найбольшым абсурдам трэбаваць ад чалавека трымацца нейкіх загадзя ўстаноўленых рамак, трэбаваць ад яго механічна паслугоўвацца чужымі думкамі, жыць па інэрцыі традыцыямі Паўкі Карчагіна. Як гэтага не жадалася-б некаторым, не магчыма затрымаць гісторыю, разьвіцьцё людзтва й паасобнага чалавека. «Мы гаворым, — зазначае ён, — што трэба вучыцца ў нашых бацькоў і дзядоў, у камсамольцаў 30-х гадоў і грамадзянскай вайны. Бязумоўна, гэта праўда. Вучыцца — так! Але не мэханічна пераносіць рысы 30-гадовай даўнасьці ў наш час. Я ня ведаю, ад каго я змагу больш узяць для сябе — ад Паўкі Карчагіна ці Сан-Жуста. Гісторыя пачалася ня сяньня й ня ўчора. На аснове руплівага перагляду дасягненьняў і памылак мінулых пакаленьняў кажны з нас і наша пакаленьне павінны выпрацаваць свой характар, свае ідэі».

Як бачым, тут Салаўёў ня згодны з партыйнай догмай, што гісторыя пачалася з кастрычніцкім пераваротам, якая нарадзіла й «новага савецкага чалавека» зь ягонымі «вышэйшымі» й нязьменнымі якасьцямі, дастойнага пераняцьця. Ня згодны Салаўёў і з фактам кананізацыі так званага марксізму-ленінізму, з гэтай раз назаўсёды Богам дадзенай «праўдзівасьцяй», якой і толькі якой павінен кіравацца савецкі чалавек. «Як гэта не парадаксальна, — зазначае ён, — сустракаюцца людзі, якія наагул ня маюць сваіх ідэяў, не задумоўваюцца самастойна над жыцьцём, але «мэханічна паўтараюць чужыя думкі. А гэта дрэнна, незалежна ад таго, ці думкі гэтыя з «Афарызмаў» Шопэнгаўэра ці з кнігаў Гэмінгуэя, або з раманаў нашых савецкіх пісьменьнікаў. Чужыя думкі могуць стацца сваімі, але іх трэба праверыць. Я ня думаю, ведама, што ў любой спрэчцы нараджаецца праўда, але што сумленьнем правяраецца й умацоўваецца праўда і адкідаецца хвальш — гэта аксіёма». Наагул Салаўёў за тое, каб кажны чалавек меў права думаць і «выпрацоўваць собскі пагляд на жыцьцё». Гэта, згодна яго, дазволіла-б разьвіцьцё людзкога прагрэсу, а «ня кручэньне, якое робіць ваверка ў коле», спрычынілася-б змаганьню «за чалавечую прыгожасьць», супраць нізкасьці, падлізьніцтва, крывадушша, што наглядаецца актуальна. «Ня можна рухацца па інэрцыі — гэта знаюць і фізыкі, і лірыкі зь дзесяцікляснай асьветай. Інэрцыя — гэта раней ці пазьней астаноўка. Кажны чалавек павінен мець свой нутраны рухавік», — рэзюмуе сваю думку Ул. Салаўёў.

Ул. Салаўёва падтрымаў у сваім выступленьні студэнт А. Андрэеў, затрымаўшыся галоўным чынам на пытаньні адсутнасьці выхаваньня савецкай моладзі быць адчувальнымі, шляхотных пачуцьцяў. Ды ці толькі адзін Андрэеў? Як дадае камэнтатар, посьле гэтых выступленьняў заля шумела, спрэчка вялася ўсюды. Падымаліся й парушаліся наперабой розныя пытаньні й аспэкты з жыцьця савецкай моладзі й партыйных трэбаваньняў, як патрыятызм, «гарэньне камуністычным будаўніцтвам», абавязка перад дзяржавай і партыяй, «карчагінскі асцэтызм» і г. д. Цікава зазначыць, што ў вагульным да ўсяго гэтага моладзь аднеслася адмоўна. Яна лічыць, што мусіў прызнаць камэнтатар, партыйнае разуменьне «патрыятызму й абавязку перад дзяржавай» свайго роду «донкіхотствам». Гэта пацьвярджаюць і дырэктныя выказваньні. Напрыклад, работнік А. Ціхаміраў уважае, што «найбольшы» абавязак кажнага — гэта знайсьці самога сябе, пазнаць жыцьцё, знайсьці адказы на шматлікія жыцьцёвыя запытаньні. Для яго прапагаваныя партыяй «высокія ідэі», камсамольскае «гарэньне» — гэта «ерунда». На кінутую рэпліку па свайму адрасу, што гэта «сэктант», Ціхаміраў спакойна адказаў: «У мяне свае ўяўленьні пра жыцьцё». Малады навуковец Ул. Дворкін таксама ня згодны зь лёзунгам «абавязковага гарэньня». Сваім апанэнтам зь ліку партыйных падпявалаў ён проста гаворыць: «Нязноснасьць (партыйная нязноснасьць тых, якія думаюць інача — П.З.) — гэта свайго роду мяшчанства. Мешчанін думае, што ён цэнтр зямлі, што ён пуп Сусьвету. Чалавек нязносны думае дакладна так-жа — што ён пуп зямлі, што толькі ягоныя пагляды праўдзівыя й што, апрача яго, больш нічога ня існуе». Дыплямант на інжынера Г. Гайсінскі ў сваю чаргу ня згодны цьвердзіць усім і ўсюды, што «жыцьцё ўсыпана ружамі». Гэта ён сказаў у сувязі з прапагандай так званай «рамантыкі будоўляў камунізму». «Пра рамантыку ня можна крычаць, — зазначае ён. — Пра яе трэба гаварыць тонка, тактычна. Пачуцьцё абавязку, пачуцьцё адказнасьці... загадамі ня прыўеш, барабанным боем не ўкалоціш». Тое самае было выказана ў сувязі з партыйным лёзунгам «насьледваць Паўку Карчагіна», г. зн. прысьвяціць жыцьцё партыі. Малады пэдагог Э. Сокалаў сказаў па гэтаму пытаньню: «Калі наш сучасьнік будзе сьведама падаўляць свае духовыя й асабістыя патрэбнасьці, свае здольнасьці, ён ужо ня можа йсьці з духам часу». Наагул, «карчагінскі асцэтызм» — аджыўшае й шкоднае зьявішча. «Рахметаў ня можа быць цяпер прыкладам для імітацыі».

Што-ж прапануюць у замен успомненыя дыскутанты й цэлы шэраг іншых удзельнікаў гэтае дыскусыі, каб запабегчы распаўсюджаньне сярод савецкай моладзі нігілізму, сцэптызму й разчараваньня? Яны ў васнаўным згодныя з Ул. Салаўёвым: «ня можна рухацца па інэрцыі». Трэба йсьці з духам часу, зьвяртаць больш увагі на прыватнае жыцьцё моладзі, на асобу, што жыве на зямлі толькі адзін раз і ня можа гэтае кароткае жыцьцё прысьвяціць нейкай абстрактнасьці. Як сказаў студэнт А. Капусткін, трэба «выхоўваць у моладзі пачуцьцё прыгажосьці, вучыць яе думаць, разважаць самастойна». «Трэба таксама, — як зазначыла работніца Л. Пятрова, — прывіваць ей і пачуцьцё каханьня, пашаны», каб дасягнуць «добрых, натуральных адносінаў між людзьмі».

Цікава адзначыць, што навет заядлыя прыхільнікі «партыйнага гарэньня» ня прыбягалі тут, як у іншых выпадках, да «прыгожых» заклікаў і «штодзённых клопатаў роднае партыі». Выступленьніж іншых, хоць праўда й ня выходзілі за рамкі «савецкай лягальнасьці», былі ськіваваныя супраць рабаўнічай і нявольніцкай палітыкі гэтай партыі, супраць ейных намаганьняў манапалізаваць духовае жыцьцё савецкага грамадзяніна, і ў першую чаргу моладзі.

**П. Залужны**

# У вянок гэнію «Народаў Забраных»

28 красавіка 1961 г. у Палітэхнічным Інстытуце ў штаце Нью-Ёрк адбылася цікавая сустрэча студэнтаў і сябраў факультэту зь ведамым індыйскім філёзафам, палітыкам, паэтам, навукоўцам і гуманістым, доктарам Амія Чакраварты. Перад вялікай тысячнай аўдыторыяй д-р Чакраварты чытаў цікавы даклад аб вядомым індыйскім пісьменьніку і паэце Рабіндранаце Тагору і Барысу Пастэрнаку. Дыскусыйнасьць самое тэмы — «Пастэрнак і Тагор: Сумленьне супраць грамадзкасьці», — як і набліжэньне 7-га траўня г. г. — сотых угодкаў з дня нараджэньня гэтага выдатнага мастака слова й змагара за свабоду Бэнгаліі й Індыі, падагрэлі цікавасьць да гэтага дакладу ў вялікага мноства народу. Паслухаць д-ра Чакраварты, колішняга асабістага сакратара Рабіндраната Тагора, зь якім ён у гадох 1926-1933 вандраваў па ўсяму сьвету, асабліва цікава было Амэрыканцам беларускага паходжаньня. Беларусы заўсёды выяўлялі асаблівую зацікаўленасьць творчасьцяй далёкага пабраціма па ідэях вызваленьня народаў зпад няволі чужога панаваньня. Ідэі няўміручасьці чалавечых імкненьняў да свабоды, лучнасьці бяз узгляду на расавыя й рэлігійныя адрознасьці, пратэст супраць чужога панаваньня траплялі на жыватворную беларускую глебу й будзілі спагаднае водгульле ў беларускіх сэрцах. Таму беларускія паэты й знаходзілі ў творчасьці Рабіндраната Тагора шмат сугучных сабе матываў і вызнавалі ягоную ліру музай усіх паняволеных народаў.

Беларускі перакладчык Аркадзь Мардвілка (Лясны) пераклаў быў і выдаў кніжыцай «Маладняка» цудоўную лірычную паэму Р. Тагора «Садоўнік». А ўвосені 1926 году, калі чакалася, што Рабіндранат Тагор праедзе праз Беларусь і затрымаецца на колькі дзён у Менску, каб сустрэцца зь беларускімі паэтамі й пісьменьнікамі такой-жа паняволенай краіны, як і родная яму Бэнгалія, Беларускае Літаратурна-Мастацкае Згуртаваньне «Ўзвышша» падрыхтавала было адмысловы зборнік мастацкіх твораў, прысьвечаных Рабіндранату Тагору. Тады, праўда, не дайшло да зьяўленьня ў сьвет тае кніжыцы, бо Р. Тагор гэтак тады і не зьявіўся на Беларусі, мабыць, дзеля перашкод з боку таталітарнае ўлады Масквы, якая баялася пусьціць у сваю калёнію ідэёвага змагара з усялякімі каляніяльнымі ёрмамі на шыях народаў. Адылі верш Язэпа Пушчы заместа тога зборніка праз год зьявіўся ў трэйцім зборніку паэзіі гэтага аўтара «ДНІ ВЯСНЫ» (Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Менск, 1927, ст. 65). На сяньняшні дзень, як і тады, 35 гадоў таму назад, гэты верш гучыць магутным паэтычным зваротам да сусьветных аўтарытэтаў вызвольнае ідэялёгіі, да ўсяго сьвету з напамінам аб няпрыглядным лёсе паняволенае Беларусі, як і іншых «забраных» краінаў. Тут ужо за колькі гадоў да стварэньня другім таленавітым паэтам — Сяргеем Астрэйкаю паэмы «Бэнгалія», у якой пад выглядам апісаньня Брытанскае калёніі даваўся шырокі абраз каляніяльных парадкаў на Беларусі, Язэп Пушча праводзіць простую аналёгію супольнасьці лёсу й імкненьняў да вызваленьня тае-ж Бэнгаліі й Беларусі. Рабіндранат Тагор, гордасьць і слава Бэнгаліі, вызнаецца за гэнія ўсіх «народаў забраных», а крывавыя чыны акупантаў на Беларусі ўцелаўляюцца ў вобразе «кветак крыві». Пушчаў верш нагэтулькі прыгожы й паэтычны, поўны глыбокага пачуцьця ўдзячнага вызнаньня Рабіндранату Тагору, што яго тут варта прывесьці цалкам:

### РАБІНДРАНАТУ ТАГОРУ

Хацелі народ мой чужынцы зьняславіць
І сэрца скрывавіць на раны.
Бэнгаліі гордасьць, Бэнгаліі слава,
О, гэні народаў забраных!

У песьні табе я стыхіяй малюся
І кленчу на дзікім кургане.
Кветкі крыві парасьлі ў Беларусі,
Паэта мой любы, каханы.

Зара-зараніца цьвіце ў паднябесьсі,
Залоціць красою разлогі.
Далёкі па вёрстах, а блізкі па песьнях,
Я кветкамі ўсыплю дарогі.

Прайдзіся па іх ты, прайдзіся, чаканы:
Сьляды застануцца сьвятымі.
Цябе абніму я, як бацьку, рукамі, —
Пачуцьці ў сталецьцях ня стынуць.

Ня прыходзіцца дзівіцца, што д-р Чакраварты быў асабліва ўзрушаны і ўзрадаваны, калі прафэсар Уладзімер Сядура паднёс яму арыгінальны тэкст і собскі пераклад на ангельскую мову гэтага выдатнага Пушчавага вершу, прысьвечанага Рабіндранату Тагору. Пры гэтым Д-р Чакраварты выявіў добрае запазнаньне з становішчам Беларусі і ейнымі вызвольнымі імкненьнямі. Адразу, прачытаўшы пераклад вершу Язэпа Пушчы, ён добра зразумеў высокародную ідэю твору, і думка пра агульнасьць лёсаў Бэнгаліі й Беларусі выклікала жывы абмен думак паміж індыйскім дзеячом і беларускім навукоўцам. Каб ні позьні час, здавалася-б, канца ня будзе сяброўскай бяседзе прадстаўнікоў двух, далёкіх гэаграфічна, але гэтак блізкіх па духу і ідэях, народаў.

На разьвітаньні д-р Чакраварты шчыра й сардэчна дзякаваў д-ра У. Сядуру за гэткі неспадзяваны й каштоўны для яго і ўсяго тагоразнаўства дакумант асаблівае вагі, як сьведчаньне жывучасьці і няўміручасьці супольных ідэяў. Д-р Чакраварты абяцаў неадкладна паслаць арыгінальны тэкст і пераклад Пушчавага вершу ў Калькуту (Бэнгалію) ў Музэй і архіў Рабіндраната Тагора, каб зрабіць іх аб'ектам вывучэньня біёграфаў Тагора і літаратуразнаўцаў, што вывучаюць ягоную спадчыну.

Каб сталася яснаю важнасьць гэтага новага кроку ў міжнародных лучнасьцях, тут варта прыгадаць колькі біяграфічных фактаў д-ра Чакраварты. Праз даўгі час д-р Чакраварты быў бліжэйшым памагатым Магатмы Гандзі і ўдзельнічаў у ягоным апошнім мірным маршы-паходзе, вынікам чаго Індыя здабыла сваю незалежнасьць, не праліўшы пры гэтым аніводнае кроплі крыві. Пазьней д-р Чакраварты наведаў выдатнага доктара-гуманістага Альбэрта Швайцара. Спатыкаўся зь індыйскім прэм'ерам Нэру. У сьнежні 1959 г., за колькі месяцаў да сьмерці Барыса Пастэрнака, ён наведаў аўтара знанага рамана «Доктар Жывага» і меў зь ім даўгую размову. Пазьней ён прачытаў

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

ён цярпеў у сваёй сям'і, і, калі мы расставаліся, каб разыйсьціся кажнаму ў свой бок, папрасіў мяне заходзіць да яго часамі, «як будзе вольны час, бо мне дык ня надта можна ад варштатаў».

Пан Шабуневіч паходзіць ад каталіка, а матка-нябожчыца была праваслаўная. У мэтрыках пішацца «каталіцкай веры», але нічога ня меў ён і да праваслаўя. Бацькі, хай іхным душачкам у Бога вечны спакой будзе, пакінулі яму ў спадчыне кавалак зямлі, так што добры гарод выходзіць, ды хатку. Навучылі майстроўкі — праз пяць гадоў тэрмінаваў у суседа пана Бэрковіча й навучыўся шавецтва. І ажанілі, узяўшы яму ў жонкі дачку пана Німартовіча, шляхцянку з Старога Папеля. Дык цяперака, маючы з чаго жыць, маючы жонку, сынка, мог-бы пан Шабуневіч, здаецца жыць і Богу дзякаваць але каб усё так было, як здаецца.

Уся бяда з жонкі йдзець. Паня Шабуневічыха ўважае сябе й мужа «польскай веры» й дзеля таго ня спушчае свайму гаспадару ані рэлігійнае бесстароннасьці, ані ягонае «простае», «мужыцкае» мовы. Каталічка аж зь «дзесятага калена», заўсёды выракала й вытыкала яму:

— Ты грэх робіш, а ты ў царкву ходзіш, а ты не сароміўся, а ты на людзей не ўважаеш, а ты сам сябе й мяне не шануеш, бо гаварыць, як у тваім стане сьлед, ня хочаш, — і пачне і пачне. Што ты ёй на гэта скажаш?! Кажы не кажы, што й Бог адзін, што й Матка Боская, і Пан Езус — адны на ўвесь сьвет, яна ўсё сваё. Ты ёй слова, яна табе два, ты ёй два, яна табе тры. Дык пан Шабуневіч ніколі доўга не спрачаўся, калі жонка пачынала аб веры.

Але калі Янова прычэпіцца да яго за «простую гутарку», тутака пан Ян, не ўважаючы на свой спакойны, па бацьку нябожчыку, характар, ніколі ня ўступіць. Тутака жонка зь ім нічога ня зробіць. Упрэцца, як вол каля стайні, і ні туды, ні сюды. Яшчэ й пашкельвае часамі зь ейнае «польскае мовы»: «Я в огродзе полем грэнды, а мой Янка сюды, тэнды, ах, Ясенко муй коханы, дам паясэк прэтыканы» . . . Ды йшчэ гэтак усьміхаецца, што пані Яновай вочы выскачыць гатовы ад злосьці. Колькі разоў быў я сам сьветкам гэтых спрэчак. Навет заслужыў няміласьць у Яновай. Бо калі здаралася мне папасьці да іх за судзьдзю, дык, і асьцерагаючыся, і ўсё, але заўсёды судзіў у карысьць мужа. Прызнацца, тады мне нясоладка было пад ейным вокам. Зьесьці гатова.

II

Ну, але й на вайне ёсьць замірэньні, і на моры пагода. Пануюць яны і ў гэтай сямейцы часамі. Тады, Божа мой, ня трэба лепшае пары на сьвеце. Проста радасьць бярэць, як пабачыш, якую пару Бог злучыў. Адно аднаго слухае й паважае, адно аднаму стараецца дагадзіць, гукаюць міжсобку лагодненька, міленька — галубкі, дый годзе! Пан Шабуневіч, седзячы ля ваконца, што ў гарод выходзіць, пры сваім варштаціку й муркаючы, як кот, пад нос сабе якую песьню, падшывае дратвай перады, ці падбівае падноскі на чаравікі. Паня Янова, як тая курка, гэттака-ж пад ваконцам у гародчыку полець грады і, выбіраючы па каліўцу зяло, не-не — ды адвернецца да чалавека: «А падзівіся, Ясечка, як бурачкі ўзыйшлі, ніводнае зернятка не прапала; ці бачыш, як цыбулька ў нас у цыбучкі йдзець, а расада якая зялёненькая, пэўна ўжо зусім абмацавалася». І пан Шабуневіч, высунуўшы галаву з ваконца, з радасьцяй бачыць, як спраўдзе бурачкі ўзыйшлі й цыбулька паперылася, і расада, абмацаваўшыся, зелянее.

— А ведаеш, Каруся, здаецца, бурачкі, гэтта, крыху густавата сядзяць.

— Але! Заўтра я бацьвінкі згатую на абед.

— Добра. Люблю я зеляніну! Гм . . . а як-жа ў нас абед сяганьня?

— Абед гатовы. Віця прыбяжыць, і зараз есьці будзем.

— Час, час, — у жываце ўжо нешта пабурквае.

За паўгадзінкі прыходзіць із школкі Віцька — адзінак і ўлюбенец панства Шабуневічаў, пястунчык матчын і гордасьць бацькава — і ўсе сядаюць за стол. І пры стале дух згоды чуецца як найлепей. Бацька з сынам аж пачырванеюць ад натугі, стараючыся дагадзіць матцы, а яна, як тая ластавачка, увіхаецца каля стала. Падлівае ў талерку гарачае стравы то аднаму, то другому, падсоўвае хлеба, просіць есьці, каб сытыя былі. Віця апавядае, аб чым казалася ў школцы, як настаўнік пакараў каго-небудзь з вучняў, што спаткаў, ідучы ў школу й адтуль.

У Віці разумная галоўка. Сам бацька часам, як роўнага сабе, плясьне яго па плячы й кажа: «Ты, сынку, пойдзеш далёка! Хай ужо мы з маткай бяз жаднай адукацыі, а ты будзеш мець. Выўчым цябе на дохтара, або на інжынера» . . . Гэтта Янова заўсёды ўстрэнчыцца: «Не, лепей на ксяндза» . . .

А бацька на гэта: «Не хачу, каб ён ксяндзом быў. Памятай ты, маці, што пад старасьць і нам дапамагаць трэба будзе. А ад ксяндза дапамога кепская; дый якая табе ахвота сваё дзіця ад сябе адлучыць? Я хацеў-бы, каб сын на маіх вачох быў, а яна ўсё не!» Ну, Янова адпіраецца: «Я хіба кажу?! Хай сабе дохтарам будзе. Як лепей» . . .

— Вось-жаж! А ты, сынку, як кажаш?

— Я, татачка, хачу ў чужыя краі паехаць. Вельмі цікава, як тамака людзі жывуць.

— Вось табе й маеш! Маці з хаты выпраўляець, і сам уцячы хоча. Эх, вы! . .

— Калі я казала, каб ішоў з хаты?

— А не . . .

Але спрэчка гэтая ніколі далёка пры добрым гумары ня зойдзець. І згода пануе дзень-у-дзень, аж пакуль узноў якнебудзь не падкусіць яе чым адвечны наш вораг-бес.

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25-ГА САКАВІКА Ў ФРАНЦЫІ

У гэтым годзе Беларусы ў Францыі належна адзначылі 43-юю гадавіну зь дня абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сакавіковыя ўрачыстасьці адбыліся ў беларускіх асяродках Парыжа й Крэзо.

У Парыжы, зь ініцыятывы Галоўнае Управы Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі (А.Б.Р.Ф.), сьвяткаваньне ладзілася ў нядзелю 26-га сакавіка. У гэты сьвяточны дзень Беларусы з Парыжу й ваколіц яшчэ з раніцы зыйшліся гуртам на ўрачыстай Службе Божай у беларускай капліцы Сьв. Людовіка ды разам з айцом Маскалікам шчыра памаліліся за Беларусь і наш шматпакутны Беларускі Народ. Урачыстая Абедня ды малітва за Беларусь пакінула ў вернікаў глыбокае, незабыўнае ўражаньне, нагадваючы ўсім пра нясплачаны доўг перад Богам і нашай паняволенай Бацькаўшчынай.

Па абедзе, у памешканьні СГТС, упрыгожаным нашым нацыянальным сьцягам, пад гукі нацыянальнага беларускага гімну Старшыня Галоўнае Управы А.Б.Р.Ф. адчыніў Сакавіковую Акадэмію. Па зачытаньню прывітальных лістоў на імя А.Б.Р.Ф., прысутныя зь вялікай цікавасьцю праслухалі вельмі зьмястоўны, арыгінальны рэфэрат сп. У. Шыманца, які здолеў у гістарычным разьвіцьці нашага Народу знайсьці яскравыя доказы прагрэсуючай нацыянальнай сьведамасьці ды адвечнага імкненьня Беларусаў да собскай дзяржаўнай незалежнасьці.

Сп. Прэзыдэнт Б.Н.Р. М. Абрамчык, які прысутнічаў на гэтай Акадэміі, у сваім выступе па рэфэрату накрэсьліў вялікае значэньне для Беларусаў сяньняшняй дэкалёнізатарскай палітыкі Захаду, якая спрычынілася да здабыцьця народамі Афрыкі свае дзяржаўнае незалежнасьці. Сп. Прэзыдэнт выказаў глыбокае перакананьне, што гэткая новая міжнародная палітыка незадоўга запануе й на нашай Бацькаўшчыне, дзе наш Народ, у вадрозьненьне ад маладых, малацывілізаваных народаў Афрыкі, з'яўляецца гістарычна падрыхтаваным да свае дзяржаўнае самастойнасьці.

На заканчэньне сьвяточнай Сакавіковай Акадэміі прыпала сьціплая мастацкая частка, — знаны наш мастак сп. Жаўняровіч парадаваў слухачоў выкананьнем беларускай народнай песьні ды арыяй Кавaрадосі з опэры «Тоска», а 8-ёх-гадовая дзяўчынка — Таня Кавалеўская — вельмі міла прадэклямавала два вершы М. Багдановіча, прычым адзін зь іх — у перакладзе, на француcкай мове.

**А. К.**

## У БЕЛАРУСКІМ ІНСТЫТУЦЕ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

18 сакавіка адбылася чародная пашыраная зборка Інстытуту. Прысутнічалі Беларусы Нью Ёрку, Нью Брансьвіку, Саўт Рывэру, Пасэйку ды іншых местаў.

Айцец Гэрмановіч чытаў «Успаміны з пабыту ў Савецкіх канцлягэрах», — другая частка рэфэрату чытанага 17 сьнежаня мінулага году.

Гэтым разам дакладчык падрабязна апісаў жыцьцё савецкіх канцлягэраў, у якіх ён пабываў. Пазнаў-жа айцец, за болей як 6 гадоў побыту, нямала сібірскіх канцлягэраў. Тайшэт, Заярск, Брацк, Іркуцк і г. д. — мясьціны, аб якіх слухала аўдыторыя.

«Нідзе ў сьвеце — казаў дакладчык — мне не даводзілася чуць, каб людзі маліліся 'Божа! Падай мне хваробу', а ў савецкіх лягэрах гэтак ёсьць. Хвароба ў лягэры — азначала адрыў ад працы, хоць на нейкі час, там хвароба давала нейкую надзею, што можна будзе «дацягнуць» да канца «сроку». Лягэрнікі галадавалі. Найбольшы прысмак да 300 грамаў хлеба і 12 грамаў цукру (норма інваліднае калёны) быў часнык, але здабыць часнык удавалася рэдка.

Суджана было Беларусам даведацца праз а. Гэрмановіча аб лёсе й іншых беларускіх сьвятароў Харбінскае калёніі — амаль усе яны загінулі ў Сібіру.

Асабліва шмат мукаў і зьдзекаў пеpажыў а. Цікота. Ад яго, як генэрала вордэну Марыянаў бальшавікі вымагалі, каб ён арганізаваў і ўзначаліў беларускі каталіцкі Касьцёл ў Савецкай Беларусі. Але а. Цікота ні на якія гутаркі з бальшавікамі не пайшоў. Памёр а. Цікота мучаніцкай сьмерцяй 11 лютага 1952 г. у лягеры № 38 на лініі Тайшэт-Брацк-Заярск. Там-жа пахаваны ў брацкай магіле.

Пасьля сьмерці Сталіна некаторых катаржнікаў пачалі звальняць. У лік гэтых удалося трапіць і айцу Гэрмановічу. Даўгая валакіта (год) па розных камісіях у лягэрах, потым падарожжа транзітам праз Беларусь, у Польшчу і далей на волю. Бальшавікі не дазволілі айцу застацца ў Беларусі.

Жывая мова, мноства цікавых абразоў ды глыбокі аналіз падзеяў — надавалі рэфэрату асаблівую калярытнасьць і цікавасьць.

На заканчэньне вечару Др. Тумаш ад Інстытуту, ды прадстаўнікі беларускіх грамадзкіх арганізацыяў віталі айца Гэрмановіча зь імянінамі, ды даручылі скромны падарунак.

**А. Б. В.**



# Цаліннае шчасьце

Цягнік ішоў на паўдзень праз саланчаковыя й кавыльныя стэпы Казахстану. Ніна Курэнь з сумам глядзела праз вакно. Глядзела і ня бачыла, што дзеецца за вакном. Перад ейнымі вачыма стаяла заплаканая матка, якая разьвіталася зь Нінай на станцыі ў Гомелі. «Як яна там цяпер адна?» — думала сумная Ніна. Ніна Курэнь ехала на цалінныя землі ў Казахстан назаўсёды...

У такім мэлядраматычным тоне пачынаецца ў 78 нумары «Чырвонай Змены» артыкул «Пасланцы Беларусі на цаліне».

Цаліна сустрэла Ніну, як мачыха. Найбольшай марай Ніны была праца тынкоўшчыцы. Мара зусім сьціплая, аднак, і яна ня хутка зьдзейсьнілася. У саўгасе ў той час мала будавалі — цаліньнікі жылі ў зямлянках, палатках або вагончыках. Ніну пасылалі на розныя працы: яна была прычэпшчыцай на трактары, стрыгла авечак, варыла страву на кухні, вазіла гліну й пясок на будоўлі. Урэшце, пасьля некалькіх гадоў, мары Ніны зьдзейсьніліся. Яна атрымала жаданую працу тынкоўшчыцы.

На сцэне зьяўляецца другі і (паводля вымогаў сацрэалізму) пазытыўны» гэрой — Мікалай Гардзейчук. Яму таксама нялёгка даваліся першыя гады на цаліне. Але, як мы ўжо прыгадалі, Гардзейчук — ідэял гэтак званага «савецкага чалавека» — «выкрыў махлярствы свайго брыгадзіра, за што атрымаў узнагароду: яго прызначылі брыгадзірам. Тут ён сустрэўся зь Нінай і... пачалося іхнае каханьне. Неўзабаве прыйшло і «шчасьце» — яны атрымалі кватэру. Кватэру, праўда, нэндзную, але ўсё-ж было дзе прытуліцца.

Вось што сказала Ніна, пабачыўшы гэтую кватэру: «Пакуль яшчэ ня вельмі ўтульна, праўда? Але ці-ж у гэтым справа? Вось яно цаліннае шчасьце...»

На гэтым кончым пераказ зьместу артыкулу «Пасланцы Беларусі на цаліне», надрукаванага ў 78-ым нумары «Чырвонай Змены».

Цяпер зробім свае высновы.

Вось яно, «цаліннае шчасьце...»

Вось яна, трагэдыя сотняў і тысячаў беларускіх юнакоў і дзяўчат, адарваных ад сем'яў, ад роднага краю, засланых у дзікія азіяцкія пустыні. Вось яна, трагэдыя ўсёй падсавецкай моладзі...

Паводля таго, што чытаем у прыгаданым нарысе, Ніна Курэнь, скончыўшы дзесяцігодку, марыць толькі аб адным — быць тынкоўшчыцай. Праца тынкоўшчыцы — цяжкая, брудная, нездаровая, не жаночая. Не аб такой працы мараць юначкі. Праўдападобна, Ніна хацела-б быць лекарам, інжынерам, артысткай. Але на загад маскоўскага сатрапа мільёны маладых людзей мусяць ехаць асвойваць цаліну. Сярод іх і Ніна. І вось яна пакідае адзінокую, старую матку і едзе... едзе на заўсёды, бо так калісьці сказаў Хрушчоў — «Калюмб» праклятай цаліны.

А вось Мікалай Гардзейчук. Ён бачыць, што той, хто ў савецкай сыстэме і на версе, той едзе. Ён даносіць і выбіваецца — праўда ня высока на пасаду брыгадзіра. У нармальных умовах даносчыкамі пагарджаюць, хаця ім і плацяць. Аднак у савецкай сыстэме і сяньня існуе сумнай памяці культ Паўліка Марозава. Там даносчык — пазытыўны гэрой. Гэта агіднае, сумнае, але праўдзівае...

І вось, пасьля цяжкіх перажыцьцяў пара беларускіх маладых людзей знаходзіць гэтак званае «шчасьце». А гэтае шчасьце ў тым, што, урэшце, яны атрымалі бедную, няўтульную кватэру.

«Цаліннае шчасьце»... Савецкае шчасьце... Якое-ж яно ўбогае, маленькае, безкаляровае! А за якую цану яно дастаецца...

Сацрэалістычны артыкул у «Чырвонай Змене» — гэта адно, а савецкая рэчаіснасьць — зусім іншае. Аўтар нарысу, пэўна-ж, не сказаў, колькі цяжкіх праклёнаў у думках пасылала беларуская пара маладых людзей маскоўскім сатрапам за сваё няшчасьце, што савецкая прапаганда бяссаромна называе «шчасьцем».

# Сёе-тое

(Заканчэньне з 1-й бач.)

*

Чытаем у часапісе моладзі, што ў Нью-Ёрку хтосьці маніцца арганізаваць групу і «Мікітаў лапаць» на сцэне паставіць. Прыгадваюцца часы, калі некалі духовай стравай беларускае вёскі былі саўкі на яйках, чэрці і бабы, мікітавы лапці, пярэстыя красулі й г. д.

Здавалася, што ад тэй пары дзеліць нас вялікі прамежак часу. Дык чаго яшчэ цяпер каля лапцей таўчыся? І ці гэта адпавядае часу й месцу?

Чаму не падрыхтаваць аб тараканох у саладусе або аб гэных баранох-ударніках?

П. С. Эх, як-жа нясьціпла з нашага боку!

*

Здаецца ня вельмі саграшым, калі хоць і позна пажадаем:

— Дабранач, паважаныя спадарочкі.

Адносіцца гэта да тых, што вось у нядаўным сакавіку павылазілі былі із сваіх цёпленькіх, сумежных зь беларускімі асяродкамі, нораў, каб, казаў той, у людзі паказацца, на сакавіковай незалежніцкай плошчы разам з усімі пастаяць, заяўляючы, што жывуць і працуюць на карысьць вызваленьня бацькаўшчыны й іншае, з тым зьвязанае.

Так, так. Усе бачылі, як стаялі. Дык залазьце далей у мярлог, каб драмаць да наступнага сакавіка ці мо лістапада.

Неяк яно й далей бяз вашай дапамогі паплыве. Іншыя будуць здароўе надрываць, цягнучы, а вы ў дрэмку. А на крытыку працуючых дык вас і будзіць ня трэба будзе.

Дык, дабранач! Хоць і няма надзеі, што вам што людзкае прысьніцца...

*

Да аўтара гэтага артыкулу дайшлі адгалоскі нашых суродзічаў із Стамфорду ў Задзіночаных Штатах у справе прапанаванай некалі папулярызацыі між Беларусаў на эміграцыі Патронкі Беларусі Афрасіньні Полацкай. У лісьце падтрымоўвалася наша думка із дабаўкай, што найперш трэба дагледзіць, каб нашы праваслаўныя цэрквы павыкідалі нарэшце маскоўскія васьміканцовыя крыжы, а на іх месца ўвялі крыж Сьвятой Прадславы. Прыгадваецца Кліўленд — піянер у гэтым кірунку.

Думка, ясна, добрая, але немагчымая да скорай рэалізацыі. Справа ня толькі ў тым, што й часьць галавы БАПЦ неахвотна глядзіць на гэта, ці навет супрацьстаўляецца, але і ў шырокай нясьведамасьці нашага масавага праваслаўнага грамадзтва. Спатрэбіцца шмат часу. Людзі стагоддзямі прывыклі да маскоўскага крыжа.

Але, пэўна-ж, пачынаць акцыю трэба.

**Міхась Козыр**

# У вянок гэнію „Народаў Забраных"

(Заканчэньне з 3-яй бач.)

колькі лекцыяў на тэму: «Сьвет Пастэрнака».

Да гэтага д-р Чакраварты працаваў дарадцаю Індыйскай дэлегацыі пры Аб'ядналых Нацыях і быў дэлегатам на УНЭСКА канфэрэнцыях у Парыжы ў 1951, 1955 і 1957 гг. У 1958 г. д-р Чакраварты ўдзельнічаў ад Злучаных Штатаў на Канфэрэнцыі Паўднёва-Ўсходніх Азіяцкіх краінаў у Бангкоку для абмеркаваньня інтэрнацыянальнае культуры і тэхналёгічнага поступу ў Паўднёва-Ўсходняй Азіі.

Цяпер Д-р Чакраварты працуе прафэсарам сучасных усходніх рэлігіяў і літаратуры пры Бастонскім унівэрсытэце. Народжаны ў Бэнгаліі, ён ганарова закончыў Каледж Калюмбуса ў Газарыбагу і атрымаў магістэрскую ступень у ўнівэрсытэце ў Патна. Доктарскую ступень па філёзофіі ён атрымаў у Оксфардскім унівэрсытэце. Быў стыпэндыятам у Ельскім унівэрсытэце і пры Інстытуце Вышэйшых навукаў у Прынстоне, Нью-Джэрсі. Сярод многіх друкаваных працаў тут варта назваць кагадзе выдадзеную ў Амэрыцы ягоную кнігу: Э ТАГОР РЫДЭР (Хрэстаматыя па Тагору).

Важнае значаньне ў сэньсе пераадоленьня сучаснага разьяднаньня і крышэньня дэмакратычных сілаў маюць ідэі д-ра Чакраварты аб перагдядзе застарэлых пагдядаў на Індыйскую й Азіяцкую дэмакратыю, што яшчэ бытуюць на Захадзе. Толькі праз запазнаньне й разуменьне, пры ўзаемным паважаньні, мажліва дайсьці да праўдзівае фэдэрацыі ўсіх дэмакратыяў, наўсуперак сілам разьяднаньня й паўсюднага падзелу.

Устанаўленьне асабістых кантактаў зь дзеячамі культуры сусьветнага значаньня асабліва патрэбная і карысная беларускім вызвольным мэтам справа. Яны спрыяюць ня толькі запазнаньню з здабыткамі сусьветнае культуры, але спрыяюць азнаямленьню сьвету з нашымі мэтамі, сьведчачы аб жывучасьці й нязгаснасьці распаленых беларускім адраджэньнем агнёў. Шырокі сьвет мусіць ведаць пра нас. Але ведама, што пад ляжачы камень вада не бяжыць. Таму мусім шукаць міжнародных культурных і палітычных кантактаў. Распачатая яшчэ адразу пасьля прыезду ў Амэрыку дзейнасьць д-ра У. Сядуры ў галіне кантактаў зь дзейнымі ў сэньсе фармаваньня палітычнае, грамадзкае і сацыяльна-філязофскае думкі й сусьветнае апініі асобамі гэтым разам зрабіла свой чарговы вялікі крок і добра спрычынілася справе рэпрэзэнтацыі беларускае справы ў краінах Амэрыкі й Далёкага Ўсходу. Няхай-жа гэта зьявіцца для многіх нашых культурных дзеячоў прыкладам таго, як трэба служыць справе роднай культуры ў эміграцыі.

**Прысутны**

*Фэльетон*

# Дарма, Мікіта!

Апошнімі гадамі курскі кукурузны карыфэй Мікіта вельмі-ж у модзе. Адны ведаюць яго як назойлівага хама, што чаравікам пярыў па стале ў залі Задзіночаных Нацыяў, іншыя — як цаліннага піянера, а яшчэ іншыя — як кукурузнага цара, а бальшыня паняволеных — як вельмі амбітнага тырана.

Ад часу як зд..., скончыўся Сосо, мінула восем гадоў. Крыху часу «роднапартыйныя» бацькі перагрызалі адзін другому глоткі за ўладу. Мікіта, што выявіўся найлепшым грызуном, сядзіць вунь ужо пры стырне гадоў сем. Хоць, як ведаючыя цьвердзяць, Сосавы чаравікі яму й сяньня занадта вялікія, постаць калішняга курскага пастуха ўсё прадаўжае расьці. Цень ягоны такі ўжо вялікі, што вунь нядаўна дасягнуў аднаго абтоку зусім пад бокам у Энкл Сэма. Няма дзіва, што калі Мікіта што скажа ці навет буркне, па ўсім вольным сьвеце гэтак званыя спэцы палітычных і прапагандовых спраў пачынаюць спэкуляваць, дашукоўвацца дзірак у цэлым, з мух сланёў рабіць і тым падобнае. Прыслухоўваючыся аж сьмех часамі чалавека душыць.

Якой-жа тайніцы гэтак званыя спэцы шукаюць, чаму часта-густа не патрапяць адрозьніць чорнага ад белага? Ці Мікіта ўжо запраўды аж такі круцель-муцель, што ніяк раз і назаўсёды раскусіць яго ня можна?

Зусім не. Няхай ключом да разгадкі Мікітавай «тайніцы» будуць урачыстасьці прыняцьця касманаўта Гагарына ў Маскве. Амаль увесь сьвет, разявіўшыся, сачыў, што робіцца навокал крамлёўскага гнязда. Так сачыў, што праваронію самае галоўнае. Загледзеўшыся на Гагарына, зусім міма вушэй пусьціў тое, што «роднапартыйны бацька» вылез быў з кукурузай і сельскай гаспадаркай. — Вясна надыходзіць, — казаў Хрушчоў, — час, калі мусім усе сілы палажыць для павялічэньня выдайнасьці прадукцыі сельскай гаспадаркі.

Паводля старога прынятага правіла: я вам тыцну Гагарына, а вы, разявіўшыся, не заўважыце, што я тымчасам аб маей галоўнай скуле.

Коратка й проста. Уцёртым ужо шляхам. Ды слухаць ня ўмеюць. Так рабіў і раней. «Спэцы» ад савецкіх спраў зацікавяцца, што ў Мікітавым кароўніку робіцца, дык той крычыць: гляньце, гляньце, у мяне сьвінаматка трыццаць шэсьць нарадзіла. «Спэцы» пытаюцца, чаму натхнёная «роднай партыяй» цаліна плёнамі не зелянее, дык Мікіта ім новы спутнік тыцне пад нюню. І гэтак далей. Так і на міжнароднай арэне. Калі гэтыя ў Конго пачнуць замучаную Мікітай саладушку расхлёбываць, дык той у Ляосе накопціць, калі-ж гэтыя занятыя шуканьнем выхаду з бэрлінскага лябірынту, то маскоўскі хітрун на іх Фідэля пад бокам нацкуе. І так далей...

Эх і «спэцы-ж»! І чаго яны на Мікітавым смуродным панадворку дашукоўваюцца ды знайсьці ня могуць. Уся-ж, казаў той, жыжка на версе плавае. Ды й самім, навет падкасаўшы нагавіцы й нос заторкнуўшы, колькі разоў вунь цёпкацца давялося й даводзіцца. Дзіву чалавек даецца.

Вунь нядаўна галоўны з галоўных «спэцаў» ньюёрскі Ліпман у Сочы зь Мікітам тры дні кумекаўся. Так былі зьнюхаліся, што навет у тэніс пробавалі. А палітыкавалі-ж без канца. Дык вы думаеце, што «спэц» даведаўся, як Мікіта ў нядаўным падарожжы па «неаб'ятнай» у сельскай гаспадарцы парадак наводзіў ды сваіх цівуноў «сапажком» ад партыйнага карытца адганяў? Зусім не. «Спэц» так нахлёбаўся міжнароднымі праблемамі, што вярнуўшыся назад Мікітаву жыжачку разьлівае, Фідэля хваліць, а сваіх «босаў» лае. А чытачы сындыкальнай прэсы, чытаючы Ліпманавы справаздачы, галовамі ківаюць, ня ведаючы, што гэта чад Мікітаў. Ня лепш ад Ліпмана спраўляецца з разгаданьнем Мікіты Крэнкшоў, Гэйн ды й маса іншых «зорак» — тварцоў публічнай апініі вольнага сьвету.

Але нічога, Мікітка. Хаця шматлікіх, быццам сьляпых каля свайго прапагандовага плоту ты сагнаў, ня быць тваей перамозе. Бо вунь як усходнябэрлінскі шкапец на тваіх фокусах пазнаўся, ды паўтысячы авечак на волю перавёў, дык ня можа-ж быць, каб двуногія «шкапцы» із часам не паразумнелі. Хэ-хэ! Што й гаварыць. Шкапец-маладзец. Абдурыў цябе, Мікітка, што называецца.

Мэтад тваe-ж хлусьні вельмі просты. Усе зразумеюць, як перастануць дзірак у цэлым дашукоўвацца. Тады, брацец, твае скулы абмацаюць і чым дыхаеш праведаюць. Будзе як той Лінкольн казаў: можаш ашукаць пэўных людзей некаторы час, іншых ашукоўваць цэлы час, але ніяк ня ўдасца ашукоўваць усіх увесь час.

Прыйдзе, Мікіта, і на цябе квіта! У кукурузе твая кар'ера скончыцца.

**Міхась Козыр**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76 Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec**, 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave. Toronto 6, Ont.
**Mr. J. Chrenouski**, 2285 Sauve St. East, Montreal 12, Que.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon, Paris 9.**
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber Mouvaux (Nord)




Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялам аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.